


# Рэгіянальная газета

12 красавіка 2013 года
№ 15 (937)

Тэлетыдзень

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".



Дзе танней купляць бытавую хімію? Як на ёй зэканоміць 40 тысяч рублёў? 3-я старонка

Кожны трэці ў рэанімацыі – з-за алкаголю. 5-я старонка

- Ветэран Іван Баравы з вёскі Баравыя адзначае 90-годдзе. /2-я старонка.
- Маладзечна і раён можа падтапіць. /4-я старонка.
- Пясок для валейбольнай пляцоўкі ў Маладзечна прывязуць з іншага горада. /22-я старонка.
- Тыдзень моды: глухія мы ці глухія дызайнеры? /23-я старонка.


навіны рэгіёна

## Прыпынілі працу лабараторыі для здачы крыві

**СМАРГОНЬ.** У смаргонскім філіяле паліклінікі ў мікраРаёне Усходні прыпынілі працу лабараторыі для здачы крыві з-за недахопу кадраў. Здаць кроў цяпер можна ў бальніцы, дзе такая лабараторыя працуе, з 8.00 да 10.30 і з 14.00 да 16.00. А таксама ў паліклініцы з 8.00 да 12.30. Пытанне з аднаўленнем працы філіяла ў мікраРаёне Усходні не будзе ўздымацца да жніўня. "Нам не хапае фельчараў-лабарантаў, – кажа галоўны доктар Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы **Уладзіслаў Галяк**, – бо некаторыя перайшлі працаваць у іншыя месцы. Затое ў бальніцы можна здаць кроў і да абеду, і пасля. Працоўны час фельчараў-лабарантаў не павялічыўся, але нагрузкі паболела".

## Выберуць лагатып Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА.** У раёне праводзіцца конкурс "Вілейшчына ўстойлівая". Ён праводзіцца па трох намінацыях: конкурс ідэй выкарыстання вадасховішча, конкурс прэзентацый "Зялёныя міні-маршруты Вілейшчыны", конкурс "Лагатып Вілейшчыны". Кожная ідэя павінна быць раскрытая і абгрунтаваная з патэнцыйнымі выгадамі для ўстойлівага развіцця Вілейскага рэгіёна. Заяўкі на ўдзел прымаюцца як ад фізічных, так і юрыдычных асоб на электронным і папяровым носьбіце. Падаць іх можна да 25 красавіка па электронным адрасе: **zovik_2012@mail.ru** ці паслаць на адрас: ***222410, г. Вілейка, вул. Партызанская, 44, Вілейскі раённы Савет дэпутатаў.*** Тэлефон для даведак: 8(01771) **5-65-88.**

## Турыстычная выстава пройдзе ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА.** У цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча 19-20 красавіка адбудзецца другая міжрэгіянальная турыстычная выстава "Маладзечна: турызм і адпачынак". Яна будзе працаваць 19 красавіка з 16.00 да 19.00 і 20 красавіка – з 10.00 да 15.00.

**Аддзел інфармацыі.**



# Каманда "Маладзечна" вяртаецца

## Фанаты гатовыя за свае грошы забяспечыць удзел каманды ў чэмпіянаце




Фота: Архіў "РГ".

Будучыня маладзечанскага футбола шмат у чым залежыць ад падтрымкі фанатаў. Не толькі эмацыйнай, але фінансавай.

**МАЛАДЗЕЧНА. Футбольныя аматары пачалі ва ўсю абмяркоўваюць інфармацыю пра тое, што сёлета на матчы маладзечанскай каманды можна будзе хадзіць па абанементах.**

Рабіць гэта плануюць для таго, каб заявіць каманду ў чэмпіянаце. Мы патэлефанавалі **Аляксандру Любанцу**, дырэктару клуба "Маладзечна", каб ён пракаментаваў сітуацыю.

**– Спадар Аляксандр, што ўяўляюць сабой абанементы?**

– Абанементы на гульні – гэтая адзіная рэальная дапамога клубу. Каштаваць яны будуць каля 100 тысяч рублёў. Агульная колькасць іх складае 1500 штук.

**– Дзе іх можна будзе набыць?**

– Я размаўляю з вамі літаральна з пасяджэння клуба. У гэтыя хвіліны высвятляецца, якім чынам можна набыць абанементы.

**– Удзел маладзечанскай каманды ў Другой лізе – яшчэ адкрытае пытанне?**

– Не, ужо цяпер я магу сказаць, што футбольны клуб з Маладзечна ў сезоне 2013-2014 будзе існаваць. Да 15 красавіка нам трэба пацвердзіць удзел у чэмпіянаце. Таму я прашу ўсіх аматараў футбола не заставацца ўбаку.

**– Няўжо грошай ад продажу абанементаў хопіць на ўтрыманне футбольнага клуба?**

– Не трэба думаць, што ўсё так блага. Работа ў нас ідзе поўным ходам. Цяпер вядуцца размовы аб супрацоўніцтве з авіякампаніяй "Эціхад" (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты), мы актыўна дамаўляемся з турыстычнымі кампаніямі нашага горада. Можам запэўніць усіх: футбол у Маладзечне жыве!

**– Не сціхаюць спрэчкі наконт таго, пад якой назвай будуць выступаць футбалісты з Маладзечна?**

– Мы пакінулі гістарычную назву клуба – футбольна-спартыўны клуб "Маладзечна".

**– А трэніроўкі праходзяць?**

– А як жа! У гэтую суботу адбудзецца першы спарынг.

### Меркаванне фаната

З пытаннямі мы звярнуліся да футбольнага заўзятара **Дзмітрыя Рухлевіча**.

**– Ці нармальна тое, што толькі фанатам неабыякавы ўдзел каманды ў чэмпіянаце?**

– Гэта няправільнае меркаванне. Людзі жывуць у сваім звычайным рытме, нічога не ведаюць пра футбол. Мясцовыя газеты таксама нічога не пішуць. Адкуль тады можа з'явіцца думка пра тое, што Маладзечна ўпершыню можа застацца без футбола?

**– Вы падтрымліваеце ідэю з абанементамі?**

– Я цяпер у Маскве, але набыў бы абанемент толькі таму, што гэта рэальна дапаможа клубу. Акрамя мяне ёсць шмат людзей, якія не толькі гатовыя набыць абанементы, але і распаўсюдзіць інфармацыю пра іх.

### Меркаванне футбаліста

На пытанні адказвае **Дзмітры Касцюк**, футбаліст.

**– Што вы можаце сказаць пра сітуацыю ў маладзечанскім футболе?**

– Магу сказаць толькі адно: Дзяніс Мятліцкі (галоўны трэнер) малайчына! Толькі яго асабістымі намаганнямі футбол яшчэ жывы. Мы стваралі каманду цягам пяці гадоў. Немагчыма, каб такі вялікі горад застаўся без каманды. Гэта сорам і ганьба гораду – застацца ўбаку ад чэмпіянату рэспублікі.

**– А пра абанементы на гульні вы чулі?**

– Ідэя вельмі добрая. І кошт танны, асабліва для прадпрыемстваў і арганізацый, а такая падтрымка для клуба.

**– Як вы ацэньваеце ўзровень падрыхтоўкі футбалістаў?**

– Улічваючы тое, што да пачатку чэмпіянату застаўся месяц, можна ўявіць, як цяжка прыйдзецца хлопцам. А з другога боку, калі было лёгка.

**Сачыце за навінамі з футбольнага жыцця на сайце rh.by. Падрабязней пра тое, як набыць абанемент, чытайце ў наступным нумары.**

**Наталля ТУР.**

ЮБІЛЕЙ

# Ветэран Іван Баравы з вёскі Баравыя адзначае 90-годдзе

**ВІЛЕЙКА. Усё жыццё Іван Баравы пражыў у Баравых ля Вішнеўскага возера. Толькі тройчы ад'язджаў з роднай вёскі.**

Першы раз у 1944-м – на фронт, другі раз у канцы саракавых – у Камарова вучыцца на трактарыста і ў 1986-м – пагасцяваць да свайго аднапалчаніна ў Растоў.

У мінулы аўторак ветэран сустрэў сваё 90-годдзе.

Сувязіст артылерыі Іван Баравы вызваляў Варшаву. 2 мая 1945 года – дзень падзення Берліна – салдат сустрэў у Берліне.

– Калі працавала наша артылерыя, стаяў адзін гул. Пачуць, як страляе гармата, можна было, толькі паставіўшы нагу на яе раму, – кажа Іван Аляксандравіч. – Здрыганецца, то значыць стрэліла. За гулам усіх проста не чутно было кожнай.

Дэмабілізаваўся Іван у сорак шостым. Нейкі час працаваў на сваёй гаспадарцы, а пасля, калі людзей сагналі ў калгасы, паехаў у Камарова вучыцца на трактарыста. Была з арміі ў юнака мара стаць шафёрам. Атрымалася, што стаў механізатарам. І адпрацаваў ім усё сваё жыццё.

Выгадавалі з жонкай Валянцінай дзвюх дачок і сына, за якіх перад людзьмі не сорамна.

– Я не разумею тых, хто сёння ў вёсцы скардзіцца на безграшоўе ці беднасць, – кажа дзядзька Іван. – Зямлі – завалiся! Бяры і абрабляй. Каб мне было гадоў саракапяцьдзесят, то я б столькі яшчэ зрабіў! І араў, і касіў, і малако б здаваў. А з калгаса, што атрымаеш, тое было мне проста як дадатак.



Валянціна (злева) і Іван Баравы са сваёй дачкой Алінай, якая прыехала з Мінска павіншаваць з юбілеем свайго тату, на ганку роднага дома.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

– Дзядзька Іван, а раскажыце, як вы трыццаць дзявяты год сустракалі. Вам жа ўжо гадкоў было.

– Было, усё памятаю.

– Вы ж, мабыць, і ў школе польскай вучыліся?

– Якая школа? На зямельцы працавалі...

І пасля вайны Іван, маючы магчымасць паехаць у свет, у горад, вярнуўся без ваганняў на бацькоўскія загоны, на берагі возера. Якое з аднаго боку людзі завуць Вішнеўскім, з іншага – Бараўскім. Якая вёска з назвай Баравыя і аднайменным возерам без Івана? Баравога. І ён не бачыў сябе ў далечыні ад дома. Дастаткова таго, што прайшоў, дзе пешкі, дзе на лафеце гарматы, шлях ад роднай хаты аж да самага Берліна.



У нядзелю да Івана і Валянціны Баравых павіншаваць з дзевяностагоддзем ветэрана вайны завітаў кіраўнік сельгасказаператыва "Чырлёны" Пётр Міргалоўскі. Іван Аляксандравіч паказвае фатаграфіі, дзе ён сфатаграфаваны і ў святочныя, і ў будзённыя дні, на Дзень Перамогі са сваім сябрам – Антонам Чабатаром з вёскі Золькі.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Сёння на ўсю акругу ў жывых засталіся толькі два ветэраны апошняй вайны – Іван Баравы і Антон Чабатар.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

МУЗЫКА

## "Веснавы праменьчык" назваў лепшых

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс ансамбляў "Веснавы праменьчык-2013" сабраў удзельнікаў з усяго рэгіёна пад дахам Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў. Удзельнікі выйшлі на сцэну ў пятніцу, 5 красавіка.**

Сёлета на мерапрыемства з'ехалася 50 музычных калектываў з Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Музыканты змагаліся за першае месца ў дзвюх намінацыях: струнныя смычковыя і народныя інструменты.

Сёлетні конкурс адметны менавіта сваёй маштабнасцю: упершыню ён сабраў паўсотні ансамбляў.

– Больш удзельнікаў аб'ядпала намінацыя народных інструментаў, – заўважае **Уладзімір Яцыновіч**, дырэктар дзіцячай школы мастацтваў. – Цікавасць да іх з боку моладзі не памяншаецца. Увогуле я вельмі аптымістычна стаўлюся да сённяшняй моладзі: у яе не страціласа сувязь з народнай музыкай.

З народных інструментаў на сцэне гучалі баяны, акардэоны, домры і цымбалы. Самых маленькіх удзельнікаў было ледзь відаць з-за вялікіх інструментаў.

– Цяпер не такім папулярным стаў баян, – кажа спадар Уладзімір. – Можа, вы і самі заўважалі, што ўсё радзей баян можна пачуць і на вяселлях. Гэта абавязкова трэба выпраўляць, бо інструмент дае вялікія магчымасці для развіцця. Узровень сёлетніх баяністаў гэта добра паказаў.

Лепшым струнна-смычковым ансамблем сталі скрыпачы з Заслаўя, першым месцам адзначылі і заслаўскі дуэт скрыпачоў у гэтай жа намінацыі. Сярод музыкаў, якія прадстаўлялі народныя інструменты, першымі сталі маладзечанцы – дуэт акардэаністаў і дуэт дамрыстаў. Лепшым народным ансамблем сталі вучні Лебедзеўскай музычнай школы.

Спецыяльны прыз ад "Рэгіянальнай газеты" паехаў у Вілейку – яго атрымаў ансамбль скрыпачоў пад кіраўніцтвам **Таццяны Жук**.

Конкурс мае доўгую гісторыю: ён быў заснаваны ў пачатку 1990-х гадоў. Ужо другі год запар мерапрыемства прысвячаецца памяці былой дырэктаркі школы **Бэты Аўдзеенкі**. Апошнім часам конкурс стаў адкрытым і значна пашырыў геаграфію ўдзельнікаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

АЛІМПІЯДЫ

## Рэцэпт перамогі: веды плюс спакой

**МЯДЗЕЛ. Дзесяцікласніца гімназіі-інтэрната Мядзела Караліна Станчык тры гады запар становіцца прызёрам абласных алімпіяд па нямецкай мове.**

А сёлета ёй пакарылася і рэспубліканская алімпіяда: напрыканцы сакавіка ў Мазыры яна заваявала Дыплом трэцяй ступені.

І гэта прытым, што нямецкую мову Караліна вывучае толькі на індывідуальных занятках, бо на ўроках у гімназіі авалодвае англійскай.

**– Для паспяховага выступлення на алімпіядах неабходныя выдатныя веды. А што яшчэ трэба, на твой погляд?**

– Не трэба хвалявацца. Летась на рэспубліканскай алімпіядзе моцна хвалявалася. А калі хвалюешся, забываеш усё, нават самае простае. Сёлета сябе настройвала: нічога страшнага, калі не атрымаецца нешта заваяваць, не толькі перамога важная. Ёсць і іншыя плюсы, напрыклад, знаёмства з новымі сябрамі, новым горадам, ацэнка сваіх ведаў. Паспрабавала не хвалявацца – удалося, нашмат лепшы вынік паказала. Яшчэ скажу, што калі ты не жыў ці не бываў у Германіі, на рэспубліцы шанцаў перамагчы няма. Там цэніцца размоўная мова, без акцэнту, усялякія выказванні, прыказкі, якія можна засвоіць у краіне мовы.

**– Адкуль жа такая цікавасць да нямецкай мовы, цяпер усе англійскай захопленыя?**

– Справа ў тым, што мая сям'я пэўны час жыла ў Германіі, я закончыла там пачатковую школу. Таму мне цікава вывучаць нямецкую мову, мне яна вельмі падабаецца.

Дапамагаюць Караліне ў вывучэнні прадмета настаўніцы **Лідзія Анішкевіч, Вольга Нагела**. У гэтым навучальным годзе гімназістка ездзіла на заняткі ў лінгвістычны ўніверсітэт. І сама стараецца мову ўдасканальваць:

– Тэлебачанне толькі нямецкае гляджу, кнігі ў арыгінале чытаю, у фэйсбуку, па скайпе з былымі аднакласнікамі па-нямецку кантактую.

Караліна пакрысе становіцца паліглотам: апроч вывучэння нямецкай і англійскай, яшчэ зацікавілася французскай мовай. Надта ж яна падабаецца, кажа.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МАСТАЦТВА

## Выстава пакліча вясну ў Астравец

**АСТРАВЕЦ. У панядзелак, 8 красавіка, у будынку дзіцячай школы мастацтваў адбылося адкрыццё выставы мінскага мастака Алеся Сушы пад назвай "Напрадвесні".**

Гэта манументальныя алейныя краявіды старажытнай Нальшчаншчыны, якія Алесь стварыў на працягу апошніх гадоў у Крэве і Кабыльніку.

Партрэты вядомых асоб Беларусі – Вялікіх князёў Альгерда, Кейстута і Вітаўта, магната Януша Радзівіла, паэткі Алаізы Пашкевіч (Цётка), нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, напісаных на дрэве. Ну і вядома ж, візітоўка Сушы, – салонныя дзяўчынкі, выкананыя пастэльнымі фарбамі.

Ініцыятарам мастацкай выставы выступіў Астравецкі краязнаўчы музей на чале з дырэктарам **Ганнай Кацуба**. Адкрыў імпрэзу намеснік старшыні Астравецкага райвыканкама **Віктар Свіла**. Сваімі ўспамінамі пра пленэр, які адбыўся ў 2007 годзе на Астравеччыне і быў прысвечаны 100-гадоваму юбілею мастака з Лошы **Льву Дабжынскаму**, а таксама ўражаннямі пра выставу з прысутнымі падзяліліся сябры і калегі па творчым цэху – краязнаўца **Алесь Юркойць**, скульптар **Сяргей Гуміleўскі**, мастакі **Тэрэса Варановіч, Алесь Буйвідовіч, Людміла Кухарэвіч** і **Стафан Казлоўскі**.

Завяршыў імпрэзу госць з Літвы – доктар гуманітарных навук, прафесар **Эгідыюс Мажынтас**, якога партрэты Альгерда і Кейстута натхнілі на згадку пра Вялікае Княства Літоўскае.

Спадар Мажынтас казаў, што менавіта протабеларускі этнас быў рухавіком магутнай еўрапейскай дзяржавы, а жамойты, дзякуючы нам, ліцвінам, здолелі выстаяць перад крыжацкай навалай.

Згодна з прагнозамі сіноптыкаў, да прыходу на Беларусь цёплага надвор'я засталіся два тыдні. Напрадвесні музей запрашае на выставу, якая будзе працаваць да 19 красавіка.

**Тадэвуш НАЛЬШЧАНСКІ.**

СПАЖЫВЕЦ

# Дзе танней купляць бытавую хімію?

**МАЛАДЗЕЧНА. “РГ” параўнала кошты на самыя папулярныя тавары бытавой хіміі і сродкі асабістай гігіены ў супермаркетах, спецыялізаваных крамах, на рынку і ў інтэрнэт-краме.**



Фота vsezdorovo.com.

У сям’і сёння дзень закупак.

У васьмі з дзевяці выпадкаў лідзіруюць па таннасці тавараў спецыялізаваныя крамы. Але і тут цэны неаднолькавыя. Напрыклад, розніца на дэзадарант дасягае чатырох тысяч рублёў.

А вось калі купіць пральны парашок у супермаркетах, то сямейны бюджэт пацерпіць яшчэ менш. Гэты тавар тут нават танней, чым у спецыялізаваных крамах.

### “На рынку танней” – міф

Пахадзіўшы па рынку я, мякка кажучы, была здзіўленая. У шок мяне прывёў кошт гелю для чысткі “Domestos”. На рынку ён каштуе амаль на 18 тысяч даражэй, чым у самай дарагой спецыялізаванай краме. Не раю купляць на рынку таксама пральны парашок і папяровыя насоўкі – яны там таксама найдаражэйшыя.

Каб знайсці неабходныя мне тавары, давялося абысці ўвесь рынак. Я знайшла ўсяго тры шапікі, дзе прадаюць “мыльна-бурбалачнае”, і ўсе яны на вуліцы. Патрэбны дэзадарант я так і не знайшла.

Некаторым прасцей заказаць прадукты раз на тыдзень па інтэрнэце і спакойна чакаць – усё прывязуць да канапы.

Кошты ў інтэрнэт-крамах у сярэднім на дзве тысячы рублёў ніжэйшыя, чым у супермаркетах, але без дастаўкі. Тым не менш, калі набраць шмат тавараў, дастаўка абыдзецца танна.

### Эканомія ў тыдзень – 43 тысячы

Паводле нашых падлікаў, за адзін месяц можна зэканоміць 43 тысячы рублёў на бытавой хіміі, калі купляць па самых нізкіх цэнах.

**Ганна ШАКЕЛЬ, школа маладога журналіста.**

| Крама | Пральны парашок “Мара”, 2кг | Гель для посуду “Fairy”, 500мл | Гель для чысткі “Domestos“, 1л | Парашок для чысткі “Comet”, 500г | Зубная паста “Colgate. Пропаліс”, 100мл | Мыла “Palmoliv”, 90г | Шампунь “Head&Shoulders”, 200мл | Насоўкі “Ruta”, 10шт | Дэзадарант “Fa. Double power fresh”, 150мл |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэдні кошт у спецыялізаваных крамах | 34 750 | 14 200 | 31 000 | 8 700 | 10 550 | 6 850 | 28 100 | 1 000 | 20 900 |
| Сярэдні кошт у супермаркетах | 35 100 | 15 900 | 36 100 | 9 950 | 11 700 | 8 300 | 30 350 | 1 150 | 23 200 |
| Кошты на рынку | 38 500 | 16 300 | 43 500 | 10 000 | 11 500 | 8 600 | 32 700 | 1 300 | – |
| Кошты ў інтэрнэт-крамах | 37 200 | 15 500 | 23 200 | 9 500 | 10 950 | 8 200 | 31 200 | 1 250 | 32 800 |

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Аштрафавалі сортавыпрабавальную станцыю

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю знайшоў шмат парушэнняў на Вілейскай сортавыпрабавальнай станцыі.**

Сярод іх парушэнні бюджэтнага, бухгалтарскага заканадаўства, Закона РБ “Аб насенні”, несвоечасовай выплаце заробкаў і правілаў водакарыстання.

### Незаконна выкарыстоўвалі бюджэтныя сродкі

Так, у жніўні 2011 года прадпрыемства незаконна атрымала больш за тры мільёны рублёў з бюджэту і зрабіла таннейшым амаль 10 тысяч кілаграмаў насення збожжавых культур. Потым яго прадалі камерцыйным структурам, якія займаюцца гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю. Грошы ж выдзяляліся для таго, каб зрабіць насенне больш танным для сельскагаспадарчых арганізацый.

### Парушылі правілы вядзення бухгалтарскага ўліку

Калі станцыя прадавала летась буйную рагатую жывёлу “Мінскаму мясакамбінату”, то завысіла яе валавыя прывагі больш чым на 10 працэнтаў – калі параўноўваць з дадзенымі, што былі ў справаздачы.

Больш за тое, на прадпрыемстве зношаная асноўныя машыны і абсталяванне, звязанае з вытворчасцю насення. А гэта ў выніку паўплывала на яго якасць.

### Летась 150 тон насення сапсавалася

Трэба адзначыць, што прымаецца недастаткова мер з боку прадпрыемства і мясцовых уладаў для продажу насення суб’ектам гаспадарання.

Такім чынам, летась засталося больш за 150 тон насення. У выніку яно напросту страціла свае пасяўныя якасці і было пераведзенае ў фураж.

Дарэчы, не лепшая сітуацыя складваецца і сёлета.

### Рагатая жывёла ўтрымліваецца ў гразі

У рамках правядзення мадэрнізацыі на 2013 год прадпрыемствам запланавана выкарыстоўваць 850 мільёнаў рублёў. За гэтыя сродкі планауецца абнавіць і машынна-трактарны парк.

Але буйная рагатая жывёла ўтрымліваецца ў гразі, бо жывёлагадоўчы будынак знаходзіцца ў аварыйным стане. Там трэба адрамантаваць дах, бо ён увесь “свеціцца”, і падлогу, бо месцамі яе напросту няма.

Таксама трэба зрабіць дах над павеццю, дзе захоўваецца сельскагаспадарчая тэхніка, і завяршыць будаўніцтва крытай стаянкі.

Разам з тым, ад 5 верасня 2011 года на складзе ёсць 83 лісты шыферу, што набылі за кошт бюджэту. Яны дагэтуль нявыкарыстаныя і каштавалі больш за два мільёны. Гэта гаворыць пра няправільнае выкарыстоўванне бюджэтных сродкаў.

### Затрымалі заробтную плату

Праверкай устаноўлена, што за снежань 2012 года затрымалі выплату заработнай платы.

Акрамя гэтага, здабывалі ваду з артэзіянскай свідравіны без дазволу на спецыяльнае водакарыстанне.

### Прадпрыемства выплаціць штраф

Па выніках праверкі за дапушчаныя парушэнні прадпрыемства прыцягнутае да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу больш чым у сем мільёнаў рублёў. Тры службовыя асобы аштрафаваныя амаль на два мільёны рублёў, а яшчэ чатыры прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасці.

**Па матэрыялах Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**



| Курсы валют НБ РБ | 4.04 | 11.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 700.00 | **8 610.00** |
| Еўра | 11 140.00 | **11 280.00** |
| Злоты | 2 659.53 | **2 743.17** |
| Літ | 3 228.62 | **3 271.03** |
| Расійскі рубель | 277.00 | **277.50** |
| Грыўня | 1 066.96 | **1 058.26** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8670/8720 | **8600/8660** |
| Еўра | 11120/11210 | **11250/11370** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.04 | 10.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 121000 | **109800** |
| Сасіскі, 1 кг | 45000 | **46300** |
| Свініна, лапатка, 1кг | 50000 | **50000** |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 83000 | **83000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 24800 | **24600** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 23500 | **22800** |
| Селядзец, 1 кг | 29800 | **22700** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 85000 | **95800** |
| Рыс, 0,9 кг | 9700 | **9100** |
| Грэчка, 0,9 кг | 9850 | **9200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 11000 | **11000** |
| Алей | 16300 | **15500** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4650** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 7600 | **7800** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 30000 | **28000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9800 | **9900** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 3500 | **3500** |
| Капуста, 1 кг | 4000 | **9500** |
| Морква, 1 кг | 3500 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | 4000 | **5500** |
| Лімоны, 1 кг | 18500 | **18000** |
| Апельсіны, 1 кг | 14000 | **13000** |
| Мандарыны, 1 кг | 15000 | **20000** |
| Памідоры, 1 кг | 26000 | **22500** |
| Агуркі, 1 кг | 21500 | **17000** |
| Перац, 1 кг | 39000 | **36000** |
| Вінаград, 1 кг | 33000 | **32000** |
| Бананы, 1 кг | 12000 | **12500** |
| Яблыкі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Грушы, 1 кг | 18500 | **23000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 12000 | **10000** |
| Масла, 1 кг | 70000 | **70000** |
| Тварог, 1 кг | 40000 | **40000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 17000 | **-** |
| Сала, 1 кг | 60000 | **46000** |
| Бульба | 10000 (5л) | **10000 (5л)** |
| Мёд, 1 кг | 60000 | **50000** |

ЗДАРЭННІ

# Жанчына здала пісталет 1908 г.в.

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду, 3 красавіка, 65-гадовая жыхарка Маладзечна прынесла ў міліцыю пісталет мадэлі Борхардт-Люгер парабелум 1908 года выпуску. Кошт такіх мадэляў на чорных расійскіх рынках дасягае дзвюх тысяч долараў.**




Фота забяспечана Андрэем ГРАБЁНКІНЫМ.

Пісталет Борхардт-Люгер парабелум 1908 года выпуску, які знайшла жанчына.

– Летась ў жанчыны памёр муж. Не так даўно яна вырашыла навесці парадак у гаражы, – кажа маёр міліцыі Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў **Андрэй Грабёнкін**. – Там яна і знайшла пісталет часоў Першай сусветнай вайны і боепрыпасы. Колькі ж часу мужчына захоўваў усё гэта ў сваім гаражы, нам невядома.

Жанчына прынесла ў міліцыю пісталет калібру 9 мм, пяць патронаў да яго, 150 патронаў калібру 5,6 мм і 13 патронаў калібру 9 мм.

Па выніках праведзенай экспертызы ўжо вядома, што з пісталета быў зроблены выстрал, але калі – загадка.

Увогуле і пісталет, і патроны прыдатныя для стральбы і з'яўляюцца боепрыпасамі.

Цяпер пісталет перададуць у Мінск. Там і вырашыцца яго лёс. Магчыма, пісталет знішчаць. Але калі ён з'яўляецца гістарычнай рэліквіяй, то перададуць у музей.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СЛУЖБА 101

## Маладзечна і раён можа падтапіць

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 5 красавіка, у вёсцы Маліноўшчына на Маладзечаншчыне ў сувязі з набліжэннем паводкі прайшлі вучэнні.**

Цяпер у месцах, дзе прагназуюцца падтапленні талымі водамі, жыхарам раздаюцца лістоўкі. У іх прапісана, што рабіць, калі вада пачне падтопліваць дом.

– Калі прааналізаваць апошнія гады, то найбольшыя падтапленні былі ў нас у 2010 годзе, – распавядае намеснік начальніка аддзела па аператыўна-тактычнай працы **Дзяніс Ушацкі**. – Напрыклад, падтоплівала каапера тывы на Вілейшчыне каля Віліі. Таксама нясоладка даводзілася і жыхарам вёскі Раёўка Маладзечанскага раёна. Там тады разлўся вадаём.

У 2010 годзе былі выпадкі, калі людзей і іх маёмасць на самой справе ратавалі на плывучых сродках з падтопленых дамоў.

– Але ў асноўным, усе засталіся жывыя і здаровыя, – кажа Дзяніс Ушацкі. – Вада ж потым адступіла. Цяпер у Маладзечне па прагнозах небяспечнымі з'яўляюцца раён Лясных і вуліца Лібава-Роменская.

**Настасся РОЎДА.**

АХОВА ПРЫРОДЫ

## Незаконна рэзалі лес

**МЯДЗЕЛ. У сакавіку непадалёку ад вёскі Нарач (Кабыльнік) двое жыхароў Мядзельскага раёна займаліся незаконнай нарыхтоўкай драўніны для асабістых мэтаў.**

Адзін з іх незаконна спілаваў 16 дрэў (сасна, дуб, алешына) – усяго каля дзевяці кубічных метраў лесу. Сваімі дзеяннямі ён нашкодзіў навакольнаму асяроддзю больш чым на шэсць мільёнаў рублёў. Другі жыхар незаконна высек 12 соснаў, чым нашкодзіў навакольнаму асяроддзю на чатыры з паловай мільёны рублёў.

Акрамя гэтага, праваПарушальнікі панясуць адміністрацыйную адказнасць за незаконную высечку лесу. Штраф можа быць да 50 базавых велічынь.

Праваапрушальнікі дзейнічалі на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Нарачанскі", які з'яўляецца асабліва ахоўнай прыроднай тэрыторыяй. Таму прычыненне шкоды налічваецца ў двухразовым памеры. Да моманту выхаду артыкула ў нумар парушальнікі ў поўным аб'ёме пакрылі шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю.

**Валянцін ГАЛУБОВІЧ, намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Мужчына пажартаваў на восем мільёнаў

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачуцця рэўнасці да сваёй былой сужыцелькі 37-гадовы мужчына пазваніў у міліцыю і расказаў, што ў яе пакоі ў інтэрнаце знаходзіцца бомба.**

Хаця сам ведаў, што ніякай бомбы там няма.

Абвінавачаны цалкам прызнаў сваю віну. Ён расказаў суду, што пазваніў у міліцыю, каб праверыць, хто знаходзіцца ў пакоі.

Такі жарт мужчыну абышоўся ў 8 мільёнаў рублёў.

Мужчыну за наўмыснае зладзейства судзілі ў другі раз. Раней ён ужо плаціў штраф і быў пазбаўлены правоў кіроўцы на 5 гадоў. Яму яшчэ 3 гады і 5 месяцаў нельга садзіцца за руль.

Мужчына нежанаты, мае сярэднюю спецыяльную адукацыю і працуе рабочым на заводзе ў Мінску.

**Сяргей ГАБРУКОВІЧ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ПРАЦА

## Дзе працуюць беларусы за мяжой

**БЕЛАРУСЬ. Куды беларусы едуць працаваць і хто прыязджае працаваць у Беларусь.**

Большасць працоўных мігрантаў выязджаюць на заробкі, звязаныя з фізічнай працай. Напрыклад, на будаўнічыя, сельскагаспадарчыя і перапрацоўчыя прадпрыемствы. З ахвотай ідуць і ў сферу абслугоўвання.

Найбольш значны паток працоўных мігрантаў у Беларусь – з краін СНД, пераважна з Расіі ды Украіны. Таксама едуць з Літвы, Турцыі, В'етнама.

### Беларусы едуць у экзатычныя краіны

Па статыстыцы гарачай лініі "Ла Страда", беларусы выязджаюць у 105 краін, сярод якіх ёсць даволі экзатычныя. Напрыклад, Йемен, Малі, Перу, Аман, Буркіна-Фасо.

За гады працы сфармаваўся рэйтынг краін-лідараў: Германія, Расія, Вялікабрытанія і Італія.

### Беларусы ўсё яшчэ трапляюць у пасткі

Яшчэ ёсць выпадкі, калі нашы людзі трапляюць у пасткі, якія расставілі вярбоўшчыкі жывога тавару.

Каб не патрапіць у іх і засцерагчы сябе, усім, хто выязджае за мяжу на працу, трэба мець пры сабе копіі дакументаў. Гэта на выпадак, калі раптам яны згубяцца. Таксама страхоўку ад няшчасных выпадкаў і хвароб, грошы, кантактныя тэлефоны, у тым ліку і тэлефоны бліжэйшых дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульстваў у краіне, дзе збіраецеся працаваць.

**Як уладкавацца на працу за мяжой**

Трэба памятаць, што ўладкоўваць беларусаў на працу за межамі краіны могуць толькі тыя юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія маюць ліцэнзіі на такую дзейнасць.

За мяжой неабходна стаць на часовы консульскі ўлік. Акрамя гэтага, у многіх краінах ёсць прадстаўніцтвы міжнародных арганізацый па міграцыі, адкрытыя гарачыя інфармацыйныя лініі па ахове правоў і інтарэсаў пацярпелых. Звесткі пра іх можна атрымаць ад ліцэнзіятаў, якія займаюцца працаўладкаваннем, альбо ў Дэпартаменце па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі, а таксама на сайце МУС Беларусі.

**Падрабязную інфармацыю аб парадку працаўладкавання за межамі Беларусі, а таксама аб арганізацыях, якія маюць ліцэнзіі на такую дзейнасць, можна атрымаць па тэлефоне "гарачай лініі" Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС (тэлефон 218 52 64).**

Працоўныя мігранты могуць працаваць у Беларусі толькі тады, калі ў іх ёсць спецыяльны дазвол і заключаны працоўны дагавор. Спецыяльны дазвол выдаецца замежніку, які не мае дазволу на пастаяннае пражыванне ў Беларусі па хадайніцтве наймальніка ў Беларусі.

**Даведка "РГ".** У сувязі з уступленнем у сілу ад 1 студзеня 2012 года Пагаднення аб прававым статусе працоўных мігрантаў і членаў іх сямей, якое тычыцца жыхароў Беларусі, Казахстана і Расіі, не трэба для грамадзян гэтых краін спецыяльных дазволаў, каб працаваць на тэрыторыі гэтых бакоў. Працоўны мігрант з гэтых дзяржаў і яго сям'я вызваляюцца ад рэгістрацыі (пастаноўкі на ўлік па месцы прыбыцця) ва ўпаўнаважаных органах дзяржаўнага працаўладкавання на працягу 30 сутак з даты ўезду.

**Ірына СКВАРЦОВА, інспектар аддзялення па грамадзянстве і міграцыі Маладзечанскага РАУС.**

ВЫШУК

## Дапамажыце знайсці чалавека

**МАЛАДЗЕЧНА. Міліцыя шукае зніклага без вестак Генадзя Георгіевіча Бычкова, які нарадзіўся 13 жніўня 1938 года ў Новасібірскай вобласці Расіі. Цяпер мужчына жыве ў вёсцы Поравічы Маладзечанскага раёна.**



Сёлета 29 сакавіка ён выйшаў з дома за прадуктамі і не вярнуўся.

**Яго прыкметы**: 74 гады; рост каля 174 см; хударлявага целаскладу; твар авальны; лоб сярэдні, вертыкальны; бровы сярэднія, дугападобныя; вочы вялікія, карыя; нос малы, увагнуты; рот сярэдні, вусны сярэдняй таўшчыні і выступаюць раўнамерна; падбародак вертыкальны; вушы сярэднія, авальныя; валасы кароткія, прамыя, сівыя; голас звонкі, гаворка ясная.

**Быў апрануты**: шэрая шапка-вушанка; блакітны балонневы плашч; карычневыя штаны ў белую клетку; шэрая фланелевая кашуля; карычневы пінжак; кірзавыя боты.

Пры сабе меў беларускія грошы.

Пераканаўча просім усіх, хто што-небудзь ведае пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8-0176-749683, 8-0176-770312, 8-0176-771656** ці ў найбліжэйшы аддзел міліцыі па тэл. **102.**

**Аддзел інфармацыі.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Кожны трэці ў рэанімацыі – з-за алкаголю

**МАЛАДЗЕЧНА. Самагонаварэнне заўсёды было прыбытковай справай для тых, хто нажываецца на чужой бядзе. Ад гэтага пакутуюць сем'і, дзеці, блізкія.**

А яшчэ дадаецца працы дактарам і міліцыянерам.

– Мы не маем права выходзіць за межы заканадаўства. Але нядаўна праходзіла пасяджэнне Мінаблвыканкама, дзе старшыня **Барыс Батура** паставіў задачу: прыняць больш жорсткія меры пакарання, – кажа начальнік маладзечанскай міліцыі грамадскай бяспекі **Аляксандр Кісель.**

## Найбольш самагоншчыкаў – на Лясных

– Вось напрыканцы сакавіка быў выпадак. У раёне Лясных супрацоўнікі міліцыі выявілі амаль шэсць тысяч літраў брагі, – кажа Аляксандр Кісель.

Шмат самагонкі робяць і ў Насілаве, а таксама ў вёсцы Скавародкі, дзе нядаўна загінуў адзін з работнікаў самагоннага міні-завода.

Летась у Маркаўскім сельсавеце выгналі больш за 550 літраў самагону і завялі 28 тысяч літраў брагі. Яшчэ адзін з цэнтраў – Цюрлёўскі сельсавет.

## Рэдка "здаюць" самагоншчыкаў

Людзі не часта звяртаюцца з просьбай, каб міліцыянеры праверылі іх суседзяў, аб "працы" якіх яны ведаюць.

– Чаму так адбываецца? Можа, людзі не маюць даверу да міліцыі. Магчыма, баяцца, – кажа Аляксандр Кісель.

Супрацоўнікі міліцыі гарантуюць у такіх выпадках поўную ананімнасць. Калі чалавек ведае і хоча расказаць міліцыянеру пра тых, хто гоніць самагонку, ён можа нават не называць сваё прозвішча.

**Летась супрацоўнікі міліцыі ў Маладзечанскім раёне выявілі 222 выпадкі самагонаварэння.**

Да таго ж міліцыя штотыднёва праводзіць рэйды, падчас якіх вылоўліваюць самагоншчыкаў.

## Самагон вачыма медыцыны

Паводле слоў загадчыка аддзялення анестэзіялогіі і рэанімацыі Маладзечанскай раённай бальніцы **Пятра Шугалы**, атруцціца гарэлкай ці віном ці перапіць іх магчыма.

Але людзі больш атручваюцца сурагатамі. А самагонка – гэта сурагат алкаголю.

**Летась з алкагольнымі атручэннямі ў бальніцу патрапілі 111 чалавек. Пяцёра з іх загінулі.**

Людзі атручваюцца этанолам, растваральнікамі і іншымі сурагатамі. Летась з-за этанолу 94 чалавекі патрапілі ў бальніцу. Найбольшую шкоду здароўю наносяць растваральнікі.

У мінулым годзе 20 чалавек памерлі ад алкагольнай хваробы.

– Працэнтаў 80 – гэта калі чалавек выпадкова выпіў нейкі сурагат. Напрыклад, у бутэльцы з-пад чагосьці налітае нейкае хімічнае рэчыва. Чалавек хоча пахмяліцца, думае, што там самагонка, выпівае і атручваецца, – кажа доктар. –

## Дзень у рэанімацыі – 1 мільён

– За год праходзіць праз рэанімацыю каля 1500 чалавек. З іх 111 выпадкаў – атручэнні рознымі сурагатамі. А вось пацыентаў з алкагольнымі псіхозамі летась было 327 чалавек, – кажа Пётр Шугала. – А гэта амаль трэцяя частка людзей, якія трапляюць у рэанімацыю.

Па яго словах, гэтыя 1500 чалавек правялі ў рэанімацыі каля пяці тысяч дзён. Адзін дзень для дзяржавы каштуе больш за 1 мільён рублёў. Гэта і лекі, і харчаванне. Вось і падлічым. Толькі з-за алкаголю дзяржава праз медыцыну аддала больш за 1,5 мільярда рублёў.

– З-за атручэння сурагатамі ў рэанімацыю трапляюць як мужчыны, так і жанчыны, – працягвае Пётр Шугала. – Прычым пароўну. А раней мужчын заўсёды было значна больш.

Па словах доктара, узроставая група таксама розная. Можна сустрэць і маладую 23-гадовую дзяўчыну, якая ўжо мае хранічную форму алкагалізму.

Часцей за ўсё людзі ў рэанімацыю трапляюць з-за перадазіроўкі алкаголю. А калі чалавек атруціўся сурагатамі ці іншым спіртам – гэта можа прывесці да таго, што яму неабходна падключыць штучную нырку.

– Самае горшае з гэтага ўсяго, што ты выцягваеш чалавека з таго свету, а праз некаторы час сітуацыя паўтараецца, – працягвае доктар. – У мяне ёсць адзін пацыент, які толькі сёлета тры ці чатыры разы прайшоў праз рэанімацыю. Гэта самая вялікая бяда, што людзі паступаюць зноў і зноў.

Бып, па словах доктара, і такі выпадак, калі сама маці, якая гнала самагонку, "падсадзіла" свайго сына на гэтае зло. У рэанімацыю ён трапляў разоў восем.

## Ставім кропельніцу і даём мачагонныя

Пётр Шугала расказаў, што калі да іх чалавек трапляе з алкагольным атручэннем ці перадазіроўкай, яны імкнуцца ачысціць арганізм.

Прынцып гэты просты. Яны ставяць кропельніцы, каб вывесці алкаголь з крыві, і даюць мачагонныя прэпараты.

Каб адкачаць аднаго чалавека, патрэбны суткі. Калі ў чалавека хранічная алкагольная хвароба – 5-6 дзён.

– Увогуле самагонаварэнне прыносіць добры прыбытак,– кажа Пётр Шугала. – Людзі будуюць на гэтым свой бізнес. А на чалавечых слабасцях заўсёды зараблялі грошы. А чыстыя гэта грошы ці брудныя – гэта ўжо іншае пытанне.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Якія пакаранні чакаюць самагоншчыкаў

Як паведаміў начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Аляксандр Кісель**, выраб і захоўванне самагонкі, самагоннай брагі, а таксама самагонных апаратаў цягне за сабой папярэджанне або штраф.

Штраф накладаецца ў памеры да пяці базавых велічынь з канфіскацыяй напояў, паўфабрыкатаў і апаратаў (да 500 тысяч рублёў).

Калі падобнае чалавек учыніў паўторна на працягу года пасля накладання спагнання за такія ж парушэнні, альбо вырабляў ці захоўваў самагонкі больш за пяць літраў, а брагі больш за трыццаць літраў, то караецца штрафам у памеры ад пяці да 30 базавых (500 тысяч – 3 мільёны рублёў).

Караюць і тых людзей, якія набываюць самагонку на так званай "точцы". Гэта купля пагражае папярэджаннем або накладаннем штрафу ў памеры да пяці базавых велічынь з канфіскацыяй напою (500 тысяч рублёў).

**Даведка РГ.** Сурагат – прадукт, які толькі па некаторым падабенстве з'яўляецца заменай натуральнага.

# АЛМИ
## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28**
**УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136**

- 6500, скидка 20% — Яблоко 1кг Польша
- 17900, скидка 20% — Лук севок 1кг Голландия
- 9900, скидка 15% — Продукт сырный плавленный Роклер 140г РФ Ветчина/Грибы/Сливочный/Ассорти
- 5300, скидка 15% — Напиток йогуртный Фруттис Лёгкий жир.0.1% 285г РФ Клубника/Вишня/Персик
- 7300, скидка 20% — Биойогурт Бабушкина крынка жир.1.5% 0.5л РБ Вишня-Эхинацея/Яблоко-Черноплодная рябина/Клубника-Алоэ Вера
- только в универсаме: 22900, скидка 25% — Мороженое пломбир Бабушкина крынка 500г РБ
- 11500, скидка 25% — Маслице Хуторское жир.50% 500г РФ
- 34100, скидка 15% — Колбаса вареная Закрама Молочная в/с 1кг РБ
- 65900, скидка 20% — Рулет мясной Фирменный Гранд к/в 1кг РБ
- 4300, скидка 25% — Паштет куриный Гродфуд 105г РБ Печёночный/С грибами
- 5950, скидка 25% — Крабовые палочки Санта Бремор Сочные 200г РБ
- 10700, скидка 25% — Мойва с/м 1кг РФ
- 10900, скидка 15% — Килька Балтийская пр/п Леор Пластик 500г РБ
- только в универсаме: 7150, скидка 25% — Фасоль консервированная Лорадо 425мл Италия Белая/Красная
- 6500, скидка 20% — Рис шлифованный длиннозерновой Колумб 800г Пакистан
- только в универсаме: 12900, скидка 35% — Готовый завтрак Космостарс Звездочки со скусом меда 225г РФ
- только в универсаме: 5950, скидка 30% — Кетчуп Чумак Томатный 300г Украина
- 6500, скидка 20% — Нектар Экзотик 0.95-1л РБ грейпфрут/Яблоко/Мультивитамин
- 6150, скидка 30% — Квас Хлебный Лидский 1.5л РБ
- только в универсаме: 22900, скидка 30% — Чай черный Липтон 50пак*2г РФ
- 19900, скидка 25% — Кофе растворимый Нескафе Классик 100г РФ
- 9900, скидка 20% — Киндер шоколад 100г Германия. Поставщик: ОДО «НП-Сервис»
- только в универсаме: 13900, скидка 30% — Конфеты Джаззи Ассорти 240г Украина
- 6900, скидка 30% — Шоколад горький десертный с начинкой Столичный 100г РБ. Производитель: ОАО «Коммунарка»
- 3100, скидка 30% — Вафли с начинкой Спартак 100г РБ Черноморские/Южные/Артек. Производитель: СП ОАО «Спартак»
- только в универсаме: 1700, скидка 30% — Печенье с начинкой Хакер 75г Украина Лесная ягода/Абрикос/Какао
- 11900, скидка 25% — Орех грецкий ядра Белый пеликан 70г Украина
- 5950, скидка 30% — Семечки Полосатые жареные с солью Рень 100г РБ
- 2900, скидка 30% — Чипсы Челз 30г РБ С соусом Тартар/Со вкусом креветок и белого вина
- 8750, скидка 25% — Зубная паста Колгейт Лечебные травы 100мл Китай Отбеливающая/Ромашка-шалфей-мирра-эвкалипт
- только в универсаме: 9950, скидка 30% — Чистящее средство Хелп 500г РФ Чистая ванна/Антижир
- только в универсаме: 12500, скидка 20% — Средство моющее для унитазов Майор Домус 1л Польша В ассортименте
- только в универсаме: 2700, скидка 20% — Вкладыш для унитаза Костка 40г Польша В ассортименте
- только в универсаме: 33900, скидка 25% — Стиральный порошок Эйприл Автомат 2кг РБ Прованс/2в1 Кондиционер
- 5500, скидка 25% — Средство для мытья посуды Биолан 500г РФ Алоэ Вера/Витамин Е
- 6150, скидка 20% — Прокладки гигиенические Мисси Ультра Вингс 9-10шт Чехия

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 10 ПО 23 АПРЕЛЯ 2013 ГОДА**

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

дзяржава іх падтрымлівае.

**Гібрыдныя святлаводы ў 10 разоў эфектыўней даюць асвятленне, чым іншыя вядомыя сонечныя батарэі. Сёння такі святлавод у ЗША для памяшкання ў 300 квадратных метраў каштуе каля 16 тысяч долараў. Праўда, пакупніку дзяржава дае скідку, таму кошт можа знізіцца да васьмі тысяч. Прагназуецца, што да 2020 года ў ЗША іх будуць купляць каля мільёна ў год.**

Многія немцы збіраюць сонечную энергію і выкідваюць яе ў агульную сетку, за што таксама атрымліваюць ад дзяржавы грошы.

**– Энергаэфектыўны будынак стане вянцом тварэння вашага кластара, так?**

– Так. Пілотныя праекты мы ўжо распачалі. Мы ўжо робім такі будынак і на Маладзечаншчыне, і каля Мінска. Яшчэ плануем адзін аб'ект у сферы вытворчасці. Якія канкрэтна гэта будынкі, пакуль сакрэт. Скажу толькі, што маладзечанскі – жылы будынак на чатыры блокі.

Наша мэта – пашырыць вытворчасць усяго неабходнага для стварэння такіх праектаў. Мы хочам выйсці на рынак інавацыйнай прадукцыі Беларусі, СНД, свету.

### Маладзечанскі гандаль кладзецца на дно

**– З якімі праблемамі сутыкаецца любы прадпрымальнік-пачатковец?**

– Калі яны пачынаюць, у іх няма грошай, няма пляцоўкі, і яны наіўныя. Наш бізнес-цэнтр гатовы дапамагаць такім прадпрымальнікам. Мы можам падзяліцца ідэямі, якія могуць стаць прарыўнымі для прадпрымальнікаў.

**– Вы аднойчы сказалі: каб быць прадпрымальнікам, трэба вучыцца.**

– Абавязкова. Таму мы плануем адкрыць школу бізнесу. Вучыць прадпрымальнікаў трэба на сусветным досведзе. Плануем ладзіць навучанне, задзейнічаць прадпрымальнікаў з розных краін. Цяпер рыхтуем корпус перакладчыкаў, каб навучанне можна было арганізоўваць ужывую, анлайн.

Мы будзем дапамагаць рыхтаваць неабходную дакументацыю. Будзем развіваць кансалдынгавыя паслугі – нетыповыя для прадпрымальніка. Напрыклад, бухгалтэрыя, ахова працы і іншыя.

Заходнія прадпрымальнікі ўжо не маюць такіх функцый. Дадатковыя функцыі яны перакладаюць на кансалдынгавыя кампаніі, якія выконваюць працу. І іх ніхто не правярае, таму што справы вядзе прафесійная фірма. Таму і пытанні накіроўваюць да гэтай фірмы.

Школа будзе стварацца паступова. Пачынаць будзем з простых сустрэч-семінараў, пасля ўдасканальваць працу. Мяркуем, што паступова гэта прывядзе да школы.

Па пытаннях развіцця бізнесу ахвотныя могуць звяртацца ў “Бізнес цэнтр саюз партнёр”.

**– Якія найбольш перспектыўныя накірункі для бізнесу ў Маладзечне? Няўжо гандаль?**

– Вядома, не. Сёння гандаль кладзецца на дно. Усе гандляры – у вельмі жорсткай канкурэнцыі, якая вядзе да банкруцтва. У маладзечанцаў грошай няма. А каб яны з'явіліся, у горад павінна прыйсці вытворчасць.

Ну, вось давайце ўявім. Скажам, умоўна ў горадзе ў абароце мільён долараў. Калі не развіваецца вытворчасць, то гэты мільён ходзіць па горадзе з рук у рукі. Купіў-прадаў, купіў-прадаў. А новыя грошы не прыходзяць, адпаведна, і заробкі падымаць няма з чаго. Прыцягнуць новыя грошы можна толькі двума спосабамі: турызмам ці вытворчасцю. Як толькі гэта прыходзяць, аўтаматычна ў гараджан павышаюцца заробкі.

**Паводле інфармацыі загадчыцы сектара рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання аддзела эканомікі Маладзечанскага райвыканкама Наталлі Салагуб, на 1 красавіка ў раёне зарэгістраваныя 3954 індывідуальныя прадпрымальнікі. Устойліва больш за палову займаюцца гандлем.**

**– Часам бацькі могуць сказаць: ідзі на завод, гэта ж праца, а то што такое прадпрымальнік, гэта ж не прафесія. Як патлумачыць, хто такі прадпрымальнік?**

– Прадпрымальнік – гэта незвычайны чалавек. Гэта арганізатар. Ён валодае унікальнай здольнасцю аб'ядноўваць людзей, тэхналогіі, веды. Ён абавязкова павінен разумець, што ў выніку хоча стварыць.

Усе думаюць, што ў бізнесмэнаў шмат грошай. Але гэта зусім не так. Яны ўкладаюць усе грошы і свае, і блізкіх у справу. А самі не маюць амаль нічога. У выніку гэта чалавек, дома ў якога жонка пытаецца, дзе грошы, на працы работнікі пытаюцца, калі зарплата, і ў прадпрыемства трэба штосьці ўвесь час укладаць, і крэдыты трэба аддаваць – ён круціцца як вавёрка ў коле.

Малы бізнес – заробкі ніжэй за сярэднія для кіраўніка. І гэта сусветная тэндэнцыя.

Тут галоўнае – вытрымаць націск людзей, якія нічога не разумеюць у гэтым. Таму чалавек павінны валодаць неверагоднай устойлівасцю і духоўнай сілай. І такія людзі – на вагу золата. Іх няшмат – 1-2%. Яны больш рэдкія, чым творчыя асобы. Ім гатовы плаціць вялікія грошы толькі за тое, каб сапраўдны прадпрымальнік працаваў на пэўную кампанію.

У Кітаі стралялі верабʼёў, давялі краіну да адчаю. А потым далі магчымасць развівацца малому бізнесу – і паглядзіце на сённяшні Кітай.

У ЗША, скажам умоўна, штогод становяцца прадпрымальнікамі мільярд чалавек. Дзяржава дае ім вялізныя льготы, крэдыты. Праз год з іх у бізнесе застаецца 10 тысяч. Але дзяржава гатова даваць грошы таму мільярду, каб знайсці гэтыя дзесяць тысяч.

Роля малога бізнесу найважнейшая. Калі яму не перашкаджаць, то менавіта ён забяспечыць развіццё.

Вельмі дзіўна, што ўсе імкнуцца кіраваць бізнесам і не раяцца з ім. І ў выніку узнікаюць дзіўныя рэчы. Напрыклад, маладзечанская крама “Дабрадар”, у якую ўклалі вялізныя грошы. Праклалі пешаходную вуліцу – 70 работнікаў засталіся без працы. Дзяржаўныя прадпрыемствы не могуць аплаціць за пастаўленую прадукцыю. Дзяржава падтрымлівае і прасоўвае слабыя прадпрыемствы. Гэта страшная рэч. Калі не будзе натуральнай канкурэнцыі, знікне развіццё. Прасоўваючы наперад горшае, мы ідзём назад у пячоры.

**– У Маладзечне не проста дробны гандаль канкуруе між сабой, але і з сеткавымі вялікімі крамамі.**




**Схема ацяплення жылога будынка з выкарыстанным віхравога цеплагенератара**
**1 - цыркуляцыйная помпа**
**2 - клапан**
**3 - расшыральны бак**
**4 - батарэі ацяплення**
**5 - накапляльны бак-тэрмас**
**6 - фільтр грубай ачысткі**
**7 - віхравы цеплагенератар (цеплавая помпа) з электраматорам — парадаксальны апарат, які выпрацоўвае больш цеплавой энергіі, чым спажывае электрычнай**
**8 - аўтаматыка**
**9 - тэмпературны датчык**

– Бізнес, які вядзе маленькую краму, вынішчаюць вялікія крамы. Да таго ж, гіпермаркеты адцягваюць ад рэальнага жыцця. Пакупнік мусіць бясконца блукаць. І, зайшоўшы на хвілінку за хлебам, выходзіць праз гадзіну з поўнай торбай. Гіпермаркеты прыцягваюць нізкімі коштамі, але яны не заўсёды могуць пахваліцца высокай якасцю. У іх ёсць тэхналогіі, якія дазваляюць зрабіць так, каб тавар выглядаў свежым. Купляеш прыгожы хлеб у поліэтылене – а ён чэрствы.

**– І хто выйдзе пераможцам з такой растаноўкай сіл?**

– На гэту сітуацыю ўжо ёсць адказ. Сістэма, якая апераджае сусветны час на 10-20 год. Гэта унікальны праект – энергаэфектыўны квартал. Выглядае гэта так: стаяць некалькі дамоў, якія самі збіраюць і забяспечваюць сябе энергіяй. Паркоўка – як вінтавая лесвіца, ля кожнай кватэры стаіць машына гаспадароў.

І ў кожным доме працуе крама. Штодзень дастаўляюць свежыя прадукты першай неабходнасці. Штосьці буйное заказваеш па інтэрнэце – прывязуць. Тавар заўсёды свежы, і чалавек прыходзіць, купляе, што трэба. І замест таго, каб бясконца хадзіць па крамах, з'яўляецца час, каб жыць, ствараць і кахаць.

У нас вострая праблема з кадрамі. Чаму музыканты з музкаледжа ездзяць на гастролі і запатрабаваныя паўсюль?

Як вучацца ў музкаледжы? Настаўнік займаецца з імі індывідуальна. Навучэнец іграе кожны дзень. У выніку выпускаюць спецыяліста штучна, і ён падрыхтаваны.

А колькі разоў за час вучобы на маляра маладыя людзі бяруць у рукі пэндзаль?

**– Многія кажуць, што цяпер Маладзечна – гэта вялікі рынак.**

– Для таго, каб вырашыць эканамічную праблему Маладзечна і Беларусі наогул, неабходна развіваць навукаёмістую вытворчасць і турызм.

Менавіта таму мы працуем для таго, каб развіваць эканоміку і культуру. І ў выніку створым дзве візітныя карткі горада: турызм і альтэрнатыўную энергетыку.

Толькі тады Маладзечна зможа стаць горадам, у якім жывуць заможныя і шчаслівыя людзі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка “РГ”. Кластар** – (у эканоміцы) сканцэнтраваная на некаторай тэрыторыі група ўзаемазвязаных кампаній. **Рэкуператар** – цеплаабменнік.

## Агінскага пабачаць у галаграме

**– Ці гатовая Маладзечаншчына прымаць турыстаў?**

– Быць гатовымі мы не можам, таму што няма рэсурсаў. Але нам трэба прыцягваць турыстаў і пад іх фарміраваць інфраструктуру, а не наадварот.

Ёсць праект, які мы ўжо распрацоўваем – турыстычны комплекс у раёне Замчышча. Ён пачынаецца з супольнай ініцыятывы дырэктара музкаледжа імя Агінскага **Рыгора Сарокі** і маёй. Вялікую працу па аднаўленні гісторыі славутага роду зрабіў **Мікалай Тамашэўскі**.

Малады ўдзельнік праекта **Павел Сапоцька** арганізаваў серыю канцэртаў “Музыка княжаскага родуАгінскіх”, у межах міжнароднай праграмы “Шляхамі паланэзаў Агінскага”. Дзякуючы гэтаму з музыкай нашага земляка бліжэй пазнаёміцца ў Літве, Беларусі і Расіі.

**– Які лёс замчышча?**

У гэтым комплексе мы хочам раскрыць эпоху Агінскага, гісторыю Беларусі і Маладзечна. Яго раскрываюць будынкі, мерапрыемствы, творчыя людзі, якія спрычыняцца да праекта. Гэта дазволіць стварыць комплекс сусветнага ўзроўню.

Тут мусіць быць гасцініца, арганізаванае харчаванне, забаўляльныя цэнтры, у тым ліку дзіцячыя.

Мы хочам арганізаваць пляцоўку для творчых людзей, каб паэтам, мастакам было дзе ладзіць сустрэчы, праводзіць пленэры. Яны змогуць там прадаваць свае творы, арганізоўваць імпрэзы.

Праз Маладзечна прайшло безліч вядомых асоб. Напрыклад, **Барыс Кіт** – аўтар амерыканскай праграмы высадкі чалавека на месяц. Ён звязаны з многімі сусветнымі праектамі, якія правялі NASA. А ці ведаюць маладзечанцы пра яго?

У комплексе павінна быць шмат атрыбутыкі часоў Агінскіх, персанал апрануты ў стылі таго часу, а кожны наведнік зможа сфатаграфавацца ў цікавых касцюмах.

**– А які будзе галоўны відовішчны аб'ект? Замчышча ж сёння – гэта руіны.**

– Мы цяпер дамаўляемся аб набыцці сучаснага абсталявання, якое дазволіць у прасторы ствараць аб'ёмныя анімацыі. І гэта будзе надзвычай відовішчна!

Я хачу адысці ад скульптур і іншых традыцыйных форм. Бачу гэта так: чалавек ідзе па алеі, а побач з ім успыхваюць галаграмы знакамітых людзей.

Яшчэ хочам распрацаваць турыстычны маршрут Маладзечна-Вільня. А таксама арганізаваць адпачынак нашых турыстаў у літоўскай Паланзе. Мы накіраваныя на тое, каб турыстычныя патокі ішлі ў абодва бакі.

**– Што з гэтых планаў рэальна здзейсніць да 2015 года, калі будзем святкаваць 250-годдзе нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага?**

– Мы можам паспець стварыць гэты комплекс. Зрэшты, мы маем такі шанец. Для гэтага неабходны людзі, якія могуць удзельнічаць і якія маюць неабходныя сродкі. Праект патрабуе энтузіязму.

Гэта вельмі сур'ёзны праект, які належыць гораду.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Каманда “Зубраня” стала чэмпіёнам



Фота забяспечана Міхаілам ЧАРКАСАВЫМ.

Сёлетні турнір на Мядзельшчыне сабраў 14 камандаў.

**МЯДЗЕЛ. Адной з яркіх падзей спартыўнага жыцця Мядзельшчыны стаў чэмпіянат раёна па міні-футболе, які завяршыўся нядаўна.**

Перамогу святкавала каманда Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра “Зубраня”.

Спаборніцтвы праходзілі на базе Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра. Вынікі чэмпіянату падвёў дырэктар ўстановы **Міхаіл Чаркасаў**.

**– Ці чакалі, што будзе такая цікавасць да міні-футбола?**

– Не. Меркавалі, што камандаў будзе сем, а заявілася ўдвая больш – 14. Лічу, турнір паказаў, што футбол у раёне любяць.

Гульцы на сваіх машынах прыязджалі з розных куткоў раёна – нехта аж за паўсотні кіламетраў. Гэта пра нешта кажа.

Больш людзей стала цягнуцца да спорту – часцей сталі заказваць зал, каб пагуляць у мініфутбол, патрэніравацца.

Адкрыццём турніру стала каманда-чэмпіён “Зубраня”. Гэту каманду ніхто не бачыў, яна ў сябе дзесьці гуляла. А яна выйграла ўсе гульні і стала чэмпіёнам.

Добрую каманду сабраў аддзел адукацыі. Яе ўдзельнікі разам не гулялі, сабраліся з розных куткоў раёна. Атрымалася каманда, якая заняла другое месца.

Каманды Будслаўскага, Крывіцкага, Сваткаўскага сельсаветаў сталі мацнейшымі ад матча да матча. А з гульцоў надзвычай добрай гульнёй здзівіў варатар “Зубраня” **Ігар Калашнікаў**.

Турнір выклікаў цікавасць у гледачоў.

**На вырашальны матч паміж камандамі “Зубраня” і Мядзела прыйшло каля 150 чалавек.**

Сярод гледачоў і моладзь была. Мяркую, яна зацікавіцца футболам, будзе прыходзіць гуляць.

**– Ці будзе працяг у чэмпіянату?**

– Гульцы і гледачы спадзяюцца, што гэты чэмпіянат стане традыцыйным у раёне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Вілейскія міліцыянеры – другія ў вобласці

**ВІЛЕЙКА. Каманда мясцовага РАУС вызначылася ў чэмпіянаце ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама па міні-футболе.**

26 сакавіка ў Маладзечне прайшлі занальныя спаборніцтвы. Прадстаўнікі Вілейскага РАУС занялі першае месца, абгуляўшы каманды Маладзечанскага Валожынскага, Мядзельскага райаддзелаў.

А праз два дні, 28 сакавіка, у Лагойску вілейчане занялі другое месца ў фінальных гульнях чэмпіянату ўпраўлення. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Уладзімір Качан**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Уладзімірам КАЧАНОМ.

Каманда Вілейскага РАУС. Верхні рад: Ягор Кузьмічоў, Аляксандр Фёдараў, Юры Залуцкі, Міхаіл Качан. Ніжні рад: Дзяніс Шульгач, Сяргей Каркоцкі, Алег Ількевіч, Віталь Мількота.

■ СПАРТЫЎНЫЯ ПЛЯЦОЎКІ

## Пясок для стадыёна прывязуць з іншага горада

**МАЛАДЗЕЧНА. У гарадскім парку пачынаецца будаўніцтва стадыёна для пляжнага валейбола.**

Будаўніцтва праходзіць паралельна з праектаваннем, паведаміў **Мікалай Шрымф**, начальнік аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме Маладзечанскага райвыканкама.

Па яго словах, цяпер праводзіцца тэндар па выбары пастаўшчыка спецыяльнага пяску для пляжнага валейбола. Магчыма, пясок будзе завезены з Гомеля або Гродзенскай вобласці. Мясцовы пясок не падыходзіць для пляцоўкі, бо яго структура і пыльнасць не адпавядаюць параметрам: велічыня пясчынак перавышае норму.

Усяго плануецца завезці 700 кубоў пяску (гэта прыкладна 105 аўтамабіляў КАМАЗ).

Пакуль рыхтуецца месца пад пляцоўку, пазней пачнецца праца над будынкам амфітэатра, трыбуны якога будуць налічваць 1500 месцаў.

**Дар’я СПЕВАК.**

■ АНОНС

## Запрашаем на фінальныя матчы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Выніковыя гульні першынства Маладзечанскага раёна па валейболе сярод калектываў фізкультуры пройдуць у спартыўна-забаўляльным цэнтры з 9 па 11 красавіка. Пачатак а 18 гадзіне. Спаборнічаюць мужчыны. Удзел у матчах за прызавыя месцы прымуць каманды агракамбіната “Аляхновічы”, “Забудовы”, Маладзечанскіх электрасетак і МНС.

**Аддзел інфармацыі.**

■ НАВІНЫ

## Школе падарылі тэнісны стол

**АСТРАВЕЦ.** У нядзелю, 7 красавіка, на базе СШ ў вёсцы Рымдзюны прайшоў раённы турнір па настольным тэнісе “Надзея” на прызы СВК “Гервяты”.

Спаборнічалі мужчыны. Прынялі ўдзел 20 чалавек, паведаміў дырэктар Астравецкага раённага фізкультурна-спартыўнага клуба **Леанід Даўляш.**

Перамог у турніры доктар Астравецкай цэнтральнай раённай бальніцы **Генадзь Хаменка.** Другое месца заваяваў **Сяргей Бубен**, які працуе на будаўніцтве АЭС. Замкнуў тройку прызёраў супрацоўнік райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Віталь Несцяровіч.**

Добрая памяць пра турнір застанецца ў мясцовых вучняў: падчас яго СВК “Гервяты” падарыла школе новы тэнісны стол.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Маладзечанкі перамаглі ў міжнародных спаборніцтвах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Традыцыйныя спаборніцтвы па валейболе, прысвечаныя вываду войскаў з Афганістана, прайшлі з 5 па 7 красавіка ў Ваўкавыску.

У турніры бралі ўдзел жаночыя каманды з Польшчы і Украіны.

Беларусь прадстаўлялі таксама дзяўчаты з Гродна, Ваўкавыска і Баранавічаў. Узрост спартсменак не перавышаў 17-і гадоў.

Маладзечанская каманда прывезла са спаборніцтваў перамогу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прайшоў турнір на прызы Барыса Радкевіча

**МАЛАДЗЕЧНА.** Турнір па грэка-рымскай барацьбе аб’яднаў спартсменаў з усёй Беларусі.

Спаборніцтвы праходзілі з 5 па 7 красавіка ў маладзечанскай зале барацьбы.

Горад прымаў 18 камандаў: за перамогу змагалася амаль паўтары сотні юнакоў. Адзначыліся сярод іх і маладзечанцы.

У сваіх вагавых катэгорыях першыя месцы занялі **Арцём Шульвінскі** і **Андрэй Дудараў.** Другое месца на рахунку **Вадзіма Чарнецкага**, трэцяе – **Мікіты Найлаўца.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Перамагла каманда Мядзела

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 7 красавіка прайшоў турнір па валейболе.

У ім удзельнічалі чатыры каманды, якія гулялі па кругавой сістэме.

Перамагла каманда Мядзела, якая выйграла ўсе гульні. На другім месцы – прадстаўнікі Нарацкага сельсавета, на трэцім – НДЦ “Зубраня”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПРЫГАЖОСЦЬ

# Тыдзень моды: глухія мы ці глухія дызайнеры?

**Нядаўна ў Мінску праходзіў тыдзень высокай моды. Але народ выказаў свае прэтэнзіі адносна моды. Мы разгледзім самыя распаўсюджаныя.**

На жаль, не прыйшлі ў нашу краіну яшчэ тыя часы, калі б людзі сур'ёзна пачалі цікавіцца модай, а дызайнеры больш прыслухоўваліся да народа, бо цяпер здаецца, што адно аднаго яны проста не чуюць.

### Разбяромся разам

На тыдні высокай моды, які праходзіў у Нацыянальным мастацкім музеі, былі розныя калекцыі, сярод якіх і надта прыгожыя. Але з каментароў у інтэрнэце вынікае адно: людзі проста не разумеюць, чаму нешта зроблена так, а нешта – гэтак. Вось і атрымліваецца сітуацыя, што нібыта танцор спрабуе запусціць ракету ў космас і не разумее, навошта столькі розных кнопачак на пульце.

Давайце разам разгледзім самыя распаўсюджаныя негатыўныя каментары з інтэрнэта і разбяромся, што да чаго.

### "Гэта насіць нельга"

Для нас з вамі звыклая сітуацыя, што мадэльер – гэта той, хто ствараe адзенне. Але чаму ж мы тады не называем мадэльерамі людзей, якія працуюць у атэльe і таксама распрацоўваюць і ствараюць адзенне "з нуля"? На самой справе, слушна перш за ўсё ўспрымаць мадэльера як мастака. Кожны творчы чалавек выражае сябе па-рознаму.

Мадэльер выказвае свае думкі і ідэі праз адзенне. Як правіла, такія калекцыі-ідэі звычайна не вельмі вялікія. Яны маюць назву **"Ад кyцюр"**, і абсалютна нармальна, што гэта не будуць насіць людзі. Ставіцца да такога адзення трэба гэтак жа, як да жывапісу, скульптуры і музыкі. Альбо як да канцэпт-караў у аўтамабілебудаванні. Вы ж, пэўна, бачылі здымкі з аўтасалонаў такіх машын, якія глядзяцца як касмічныя караблі? Чаму ж не прад'яўляеце прэтэнзій канцэрнам, што іх аўтамабілі не ездзяць па вуліцах? Так і тут – дызайнеры дзеляцца думкамі і ідэямі наконт адзення, якое неабавязкова павінна заўтра з'явіцца на вуліцах Маладзечна і Вілейкі.

З іншага боку, ёсць калекцыі, якія маюць назву "прэт-а-партэ". Вось яны абавязкова павінны быць "насібельныя" і стварацца з тых рэчаў і тканін, якія мы носім ў звычайным жыцці – аднак мець пры гэтым нейкія дызайнерскія адметнасці.

Паколькі ў нашай краіне ўсе гэтыя накірункі толькі пачынаюць развівацца, то з масавай вытворчасцю ў нас тугавата, але калі вам спадабалася нейкая дызайнерская рэч, вы абавязкова можаце заказаць яе ў самога дызайнера. Дарэчы, цэны, у нас даволі дэмакратычныя.

### "Ручная праца"

Вельмі шмат было каментароў адносна таго, што ў адзенні шмат ручной працы, і гэта нікому не трэба. Аднак варта ведаць, што, паводле правіл, прапісаных Парыжскім сіндыкатам высокай моды, адзенне "ад кyцюр" на 70% павінна быць створанае з дапамогай ручной працы. Відаць, тым, хто пісаў гэтыя каментары, Парыж не ўказ – у іх свае Парыжы і свае правілы.

### "Праводзілі паказы у музеі, не маглі будынак з подыумам зняць"

Абавязковая прысутнасць подыума на паказе – гэта нейкі стэрэатып, які моцна засеў у нашых галовах. Варта ведаць, што вядомыя замежныя дызайнеры праводзяць свае паказы і ў музеях, і ў замках, і на прыродзе. А нам, бачыце, не пасуе будынак Нацыянальнага мастацкага музея.

Такім чынам, людзі не разумеюць, што вытвараюць "гэтыя ненармальныя дызайнеры", а дызайнеры не разумеюць, чаму іх не разумее народ. Зразумела, кожны з вас можа сказаць, што ён не павінны цікавіцца модай, але я ўпэўненая, што добра апранутае, упэўненае ў сабе грамадства можа нашмат больш, чым кучка людзей, апранутых у безгустоўнае, дрэнна падабранае шыкоўнае адзенне.

Дык, можа, варта больш уважліва ставіцца да такіх паказаў моды і намагацца не зневажаць, а зразумець?..


Фота Волькі ГАРАПЧЫК, tut.by.

На тыдні высокай моды.

**Таццяна УЛАДЫКА,**
**студэнтка, спецыяльнасць – дызайн адзення.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9 | 5 | | 8 | | 2 |
| 5 | | | | | | | 9 | |
| | | 2 | 7 | | | | | |
| | 7 | | | | | 9 | 1 | |
| 3 | | | 2 | | 9 | | | 8 |
| | 6 | 1 | | | | | 2 | |
| | | | | | 6 | 5 | | |
| | 1 | | | | | | | 7 |
| 7 | | 6 | | 2 | 8 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастычныя прыгоды **"Оз: Вялікі і магутны"** (у фармаце 3D, ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 красавіка – у 13.00
14 красавіка – у 15.30
15 красавіка – у 21.00
Кошт білета – 35 000 рублёў (дзённы), 40.000 (вячэрні).

Фантастычная прыгода **"Таймлес. Рубінавая кніга"** (ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12, 17, 18 красавіка – у 16.00, 21.00
13, 15 красавіка – у 18.30
14, 16 красавіка – у 21.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Прыгодніцкі экшн, фэнтэзі **"Джэк – заваёўнік веліканаў"** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12,16-18 красавіка – у 18.30
13 красавіка – у 16.00, 21.00
14 красавіка – у 13.00, 18.30

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

**"Звяркі-дабракі"** (анімацыя, Расія, 2012, для дзяцей дашкольнага ўзросту)
13 красавіка – у 14.00, 15.30
14 красавіка – у 14.30, 16.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Камедыя, меладрама **"У стылі jazz"** (Расія, 2010)
12 красавіка – у 19.30, 21.30
13-14 красавіка – у 20.30
15-16 красавіка – у 21.30
17-18 красавіка – у 19.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Меладрама **"Пагадненне"** (Расія, 2012)
12 красавіка – у 17.30
13, 14 красавіка – у 18.00
16 красавіка – у 19.30
17, 18 красавіка – у 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Парася, якое спявае, або Нам нельга без сябра"** (музычная казка-жарт у 2-х дзеях без антракта). *Сяргей Казлоў*
18 красавіка – у 19.00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Псіхааналітык для псіхааналітыка"** (камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
13 красавіка – у 17.00

**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях). *Алена Папова*
16 красавіка – у 19.00

**"Свінтус грандыёзус, альбо Хто смяецца апошнім"** (камедыя ў 2-х дзеях – варыянт МАДТ па п'есе К.Крапівы "Хто смяецца апошнім"). *Кандрат Крапіва*
17 красавіка – у 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл.: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Чырвоная Шапачка"** (казка), ідзе на рускай мове
14 красавіка – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП
(12-18 КРАСАВІКА) )


**Авен.** Вы будзеце знаходзіцца ў стане творчага пад'ёму. Выкарыстоўвайце фантазію не толькі для вырашэння пытанняў на працы, але і ў асабістых мэтах. Паспрабуйце сябе ў ролі дызайнера!


**Цялец.** Вас чакае няроўны, але не менш цікавы перыяд. Дастаткова дробязі, каб зямля выйшла з-пад ног. Але не адчайвайцеся – дастаткова другой дробязі, каб яна вярнулася назад.


**Блізняты.** З'явіцца магчымасць зрабіць цяжкі выбар, не памыліцеся. Паспрабуйце выправіць старыя пралікі, агрэхі, не падманвайце блізкіх нават у дробязях.


**Рак.** Вам проста-такі неабходна наладзіць сабе свята з марожаным, шампанскім і шакаладным тортам. Бо ў апошні час вы вялі аскетычны лад жыцця. Меру трэба ведаць ва ўсім, у тым ліку і ў абмежаваннях.

**Леў.** Вы павінны праяўляць актыўнасць ва ўсім, і гэта спрыяльна адаб'ецца на вашай самаацэнцы. Бо ўсведамленне таго, што вы кожны дзень робіце нешта карыснае і сур'ёзнае, надасць вам сіл і палепшыць настрой.



**Дзева.** Вас наведае расчараванне. Ідэя, якая шмат для вас значыла, не апраўдала чаканняў. Але затое хутка з'явіцца інтарэс да нейкай зусім новай для вас сферы.


**Шалі.** Не верце так хутка ўсяму, што вам гавораць, трэба ж трохі правяраць інфармацыю. Пазбягайце празмерных нагрузак, стамляльных паездак – вы павінны берагчы сябе.


**Скарпіён.** Старайцеся пазбягаць адкрытасці з сябрамі адносна свайго ўласнага жыцця і планаў.

**Стралец.** Вы гатовыя брацца за любыя справы – ад простых да самых складаных, і вам спадарожнічае ўдача. Але не пeратамляйцеся.


**Казярог.** У вас шмат планаў і мэт, дасягальных на першы погляд. Але не засмучайцеся, калі не ўсе яны спраўдзяцца.

**Вадалей.** Цудоўны для вас перыяд. Вы зможаце атрымаць адказ на пытанне, якое вас трывожыць, – і ён будзе аптымістычны. На хвалі пазітыву можна шмат чаго зрабіць для сябе – цяпер самы час.


**Рыбы.** Настрой будзе рамантычны. Фліртуйце, але нічога не абяцайце ні сабе, ні іншым.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +12 | | +7 / +7 | | +5 / +8 | | +3 / +10 | |
| | 740 | ↑ 8 | 739 | ↖ 5 | 738 | ↓ 6 | 751 | ↑ 1 |
| Вільня | +4 / +12 | | +7 / +9 | | +5 / +10 | | +4 / +10 | |
| | 747 | ↑ 7 | 747 | ↑ 3 | 757 | ↓ 5 | 762 | ↑ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, заход па Маладзечне

Усход 6.13
Захад 20.12
Даўжыня дня 13.59

Усход 7.29
Захад 23.49
Квадра 1

**13 красавіка, субота**

Віцебск +5 +10 747 ↑ 8
Мінск +7 +7 739 ↖ 5
Гродна +9 +11 747 ↘ 5
Магілёў +3 +8 748 ↑ 7
Гомель +4 +9 743 ↑ 6
Брэст +9 +12 747 ↘ 5

## ПРЫКМЕТЫ

- Паводка на Мар'ю (14 красавіка) – будзе многа травы.
- Пчолы ў красавіку не вылецелі – чакай халадоў.
- Зязюля пачне кукаваць на голы лес (не зазелянеўшы), то год будзе неўраджайны.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Чаго чакаць ад прэм'ернага спектакля "Падобны да Стынга", чытайце ў наступным нумары газеты.**

## АНОНС

### Пасадзіце дрэва

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзіцячы цэнтр культуры "Расток" будзе ўдзячны кожнаму, хто прынясе пасадачны матэрыял для правядзення сямейнай дабрачыннай акцыі "Казачны сад", якая пройдзе 27 красавіка.

У акцыі могуць паўдзельнічаць усе. Просім прыносіць з сабой інвентар.

Па ўсіх пытаннях звaніце па тэл. **76-42-46.**

**Аддзел інфармацыі.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АШМЯНАЎ

Фота Юрася ГОРЫДА.

**Трактар з пагрузчыкам на ашмянскіх дарогах дыктуе свае правілы руху.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чаму самагонаварэнне не знікае?

**Уладзімір Башкіраў, рабочы:**

– Тыя, хто варыць, проста не хочуць нармальна працаваць. А так яны самі сабе гаспадары, увесь прыбытак на рукі ідзе. Пакуль людзі п'юць – прыбытак у іх заўсёды будзе. Людзі набываюць самагон, бо хочуць зэканоміць: добрая гарэлка танна каштаваць не будзе.

**Віктар Сыракваш, культработнік:**

– Па-першае, кошты на самагон звычайна ніжэйшыя, чым на гарэлку ў краме. Па-другое, тыя, каму ў рукі траплялa няякасная гарэлка з крамы, часта не давяраюць фірмам-вытворцам, а лепей набываюць у знаёмых. Па-трэцяе, самагоншчыкаў не так ужо жорстка і караюць па законе, таму ім няма чаго баяцца.

**Марыя Капцёнак, кандуктарка:**

– Бо адны людзі бедныя і не могуць сабе дазволіць якасны алкаголь, а другія на гэтым нажываюцца. У крамах адна бутэлька каштуе каля 50 тысяч рублёў. А не было б гарэлкі і самагону – вось добра б было!

**Наталля Пуставойтава, пенсіянерка:**

– Самагонка карыстаецца попытам, бо таннейшая, чым алкаголь у крамах. Людзі не спяшаюцца паведамляць у міліцыю, калі ведаюць, хто і дзе гоніць самагон. Такі ў нас менталітэт. А многім увогуле ўсё роўна. Але ж людзі павінны дапамагаць дзяржаве змагацца з гэтай з'явай.

**Таццяна Савіна, харэограф:**

– Многія аддаюць перавагу самагонцы, бо лічаць, што гэта натуральны прадукт, без усялякай хіміі. А ў вёсках бутэлька часта выкарыстоўваецца замест грошай: чалавек зробіць нейкую справу, а яму аддзячаць бутэлькай. Таму многія людзі і співаюцца.

**Наталля Чарнецкая, выхавальніца:**

– Я нават не ведаю, ці актуальная гэта праблема для рэгіёна. Вядома, калі б пакаранні за самагонаварэнне былі больш жорсткія, самагоншчыкаў бы стала меней. Бо цярпяць не столькі тыя, хто гоніць, колькі сем'і тых, хто п'е гэту самагонку.

**Уладзімір Купрыенка, апальшчык:**

– Мне падаецца, што яно наадварот знікае. З таго, што я чую па тэлебачанні і чытаю ў газетах, відаць, што міліцыя змагаецца з самагонаварэннем. Але для многіх людзей гэта і лішняя капейка, і частка нашых традыцый.

**Падрыхтавала Аляксандра ПАРАХНЯ.**

Фота Ігара МАРОЗА.



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 15 (937) 12.04.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 295. Падпісана ў друк у 10.00 11.04.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.